# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 51 (825) ГОД XVI БЕЛАСТОК 19 СНЕЖНЯ 1971 г. ЦАНА 60 гр.




*На VI з'ездзе ПАРП: Эдвард Герэк, Леанід Брэжнеў, Пётр Машэраў і Пётр Ярашэвіч.*

*Тэлефота.*

## ПРА СТУДЭНЦКАЕ ПАДАРОЖЖА Ў САВЕЦКУЮ БЕЛАРУСЬ

Стаў ужо добрай традыцыяй абмен студэнтаў філфакаў Мінскага і Варшаўскага універсітэтаў. І ў гэтым годзе група студэнтаў беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта мела магчымасць правесці навуковую практыку ў Беларускім дзяржаўным універсітэце ў Мінску, а таксама пабачыць гарады-жамчужыны Савецкага Саюза — Маскву і Ленінград. Групу ўзначальвала выкладчыца беларускай мовы Варшаўскага універсітэта доктар Альжбета Смулкова. Першым этапам нашага далёкага падарожжа быў Ленінград. Затым мы наведалі сталіцу СССР — Маскву.

І вось мы на мінскім вакзале. Нас вельмі сардэчна вітаюць студэнты мінскага ўніверсітэта, многа кветак, многа сардэчных слоў. Хаця ідзе дождж, аднак усім весела. Хутка мы прыходзім у інтэрнат, у якім будзем жыць два тыдні. І тут зноў нечаканасць, прывітальнае снеданне, потым адпачынак і з панядзелка на заняткі. Вельмі цікавыя былі лекцыі на філфаку. Іх праводзілі выкладчыкі універсітэта, прозвішчы многіх з іх вядомы не толькі на Беларусі. Сярод іх былі: М. Бурак, М. Ефімава, Л. Шакун, М. Ларчанка. Першую лекцыю правёў Алег Лойка, беларускі паэт і адначасова выкладчык беларускага аддзялення. Ён захапіў нас сваім знаёмствам літаратуры. Прафесар Язэп Сяміжон — вядомы беларускі перакладчык — упершыню пазнаёміў нас з работай над перакладам. Гэта лекцыя была надзвычай цікавай і карыснай. Лекцыі па мове таксама далі нам вялікую карысць. Яны пашырылі нашыя веды ў гэтай галіне. У канцы заняткаў удалося нам убачыць і паслухаць вядомага беларускага пісьменніка — Івана Навуменку. Нягледзячы на стомленасць ( ён якраз вярнуўся з падарожжа ў Польшчу і ГДР), І. Навуменка з вялікай ахвотай і сэрцам сустрэўся з намі, расказаў пра сваю творчасць. З такой сардэчнасцю і цеплынёю мы сустракаліся на кожным кроку. І выкладчыкі, і студэнты стараліся нам як мага больш даць, пераказаць, шырэй пазнаёміць нас з культурным і штодзённым жыццём Беларусі. Тут нам хочацца падзякаваць нашаму апекуну, В. Краснею, уладам універсітэта — дэкану Воўку, яго намесніку У. Лазоўскаму за вялікія намаганні, каб наша экскурсія дала як найбольш карысці.

Мы наведалі Акадэмію навук БССР, дзе прывітаў нас дырэктар Інстытута мовазнаўства М. Суднік і падарыў кожнаму на памяць адно з апошніх акадэмічных мовазнаўчых выданняў. Упершыню мы там убачылі фанетычную лабараторыю, у якой праводзяцца навуковыя даследаванні па беларускай мове. Навуковыя працаўнікі АН вельмі дакладна стараліся пазнаёміць нас з праблематыкай сваіх работ.

Прыемным момантам нашай пабыўкі ў Мінску была сустрэча ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў, ад імя якога прывітаў нас Максім Танк. Свае вершы чыталі нам Анатоль Вярцінскі, Сяргей Грахоўскі, Анатоль Грачанікаў, Алесь

Працяг на стар. 4

## БГКТ ХРОНІКА

■ Нядаўна ў Крапіўнай (Дуброўскі павет) адбыўся справаздачна - выбарны сход гуртка БГКТ. На ім было прынята 9 новых членаў і зараз гурток налічвае 31 чалавек. На гэтым сходзе інструктар ГП І. Аношка ўручыла ўсім новыя членскія легітымацыі. Сход закончыўся выбарамі праўлення гуртка (старшыня І. Макарэвіч) і дэлегатаў на канферэнцыю дуброўскага аддзела.

■ Гурток БГКТ у Гарадку (Беластоцкі павет) налічвае каля 100 членаў. 27-га лістапада са справаздачным дакладам выступіў М. Матэйчык. Падчас дыскусіі найбольш гаварылася аб мясцовым харавым калектыве і недастатковай дапамозе яму з боку ГРН. У склад новага праўлення гуртка выбраны: Н. Мушынская — старшыня, Я. Мартынюк — намеснік старшыні, М. Матэйчык — сакратар, Л. Мялешка — скарбнік і Н. Цыванюк — член. Затым былі выбраны дэлегаты на справаздачна-выбарную канферэнцыю аддзела. У сходзе прымаў удзел член прэзідыума беластоцкага праўлення аддзела — Я. Цялушэцкі.

■ 2-га снежня прэзідыуму гайнаўскага аддзела БГКТ былі прадстаўлены для абмяркоўкі дзве інфармацыі: 1) ацэнка дзейнасці аддзела экзекутывай павятовага камітэта ПАРП і Нацыянальнай камісіяй Ваяводскага камітэта ПАРП, 2) інфармацыя аб ходзе справаздачна - выбарнай кампаніі ў гуртках БГКТ. Была падкрэслена вялікая дапамога ў гэтым актывістаў аддзела БГКТ. У пасяджэнні прынялі ўдзел сакратар ГП Я. Зенюк і падінспектар аддзела асветы ПРН С. Бароўскі.

■ Прэзідыум ГП 4-га снежня з удзелам прадстаўніка ваяводскага камітэта ПАРП С. Зялінскага і прадстаўніка ВРН М. Куца працаваў над праграмнымі напрамкамі дзейнасці БГКТ і планам працы на 1972 год, які будзе праходзіць пад знакам ажыццяўлення пастаноў VI-га з'езду ПАРП і падрыхтоўкі да VII-га з'езду БГКТ, які адбудзецца ў верасні 1972 года.

■ Гайнаўскі аддзел да канца лістапада ў касу ГП уплаціў ужо 15235 зл. З аплочваннем членскіх складчын дрэнна ў Бельскім, Сакольскім і Беластоцкім аддзелах. (мх)



ЯН СЕРАДА

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

## БРАТЫ

Браты Ян і Мікалай Серада, сыны Яна з Новай Волі (Беластоцкі павет) вядомыя як добрыя гаспадары ў сваёй вёсцы. Ян Серада мае больш 7-мі гектараў зямельных угоддзяў. Збожжавыя культуры — жыта і пшаніца займаюць у яго ў сярэднім 3,5 гектараў. Сёлета жыта было ўраджайнае. Ян Серада сабраў яго па 25 цэнтнераў з 1 гектара зямельных угоддзяў. У гэтым годзе прадаў ён дзяржаве дадаткова 13 цэнтнераў і, такім чынам, поўнасцю выканаў свой план кантрактацыі збожжавых культур. Ян Серада гадуе 4 дойныя ка-

Працяг на стар. 4



МІКАЛАЙ СЕРАДА

ДА 50-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ (15.XII.1921)

## Сцяпан Александровіч



Мне пашанцавала пазнаёміцца з вядомым беларускім літаратуразнаўцам і пісьменнікам Сцяпанам Александровічам звыш 15 год таму назад — у першым годзе маёй працы ў «Ніве».

Вось першы ліст Сцяпана Александровіча, датаваны 20 верасня 1957 года. У той час з'яўляўся ён супрацоўнікам літаддзела «Літаратуры і мастацтва». Ліст быў першай ластаўкай з Мінска, першым доказам, што варта ісці далей па абранаму мною шляху. С. Александровіч так пачынаў ліст:

«Была ў нас у рэдакцыі цёця Уладзя (жонка Янкі Купалы — М.К.), і я даведаўся Ваш адрас. Прызнацца, я ўжо даўно збіраўся напісаць Вам ліст. Мы ў рэдакцыі чытаем Вашыя вельмі слушныя і цікавыя артыкулы ў «Ніве» і з вялікай прыемнасцю змясцілі б Ваш артыкул у нашай газеце».

Гэтыя словы я ўспрыняў глыбока і час ад часу гартаў старонкі польска-беларускага пабрацімства, друкуючы ў «Ніве» матэрыялы, пачэрпнутыя з архіваў, бібліятэк і прыватных фондаў.

Давялося мне сачыць за вельмі цікавым і плённым перыядам творчай дзейнасці С. Александровіча. На старонках часопісаў і газет шукаў яго артыкулаў, нарысаў, падарожных нататак. Было іх мноства! Дзесяць кніг С. Александровіча, а паміж імі асабліва каштоўныя, як «Незабыўнымі сцежкамі», «Па слядах паэтычнай легенды», «Ад роднае зямлі», заўсёды будуць належным чынам служыць народу, прышчапляць нашчадкам любоў да роднай літаратуры. Па нядаўна апублікаванай манаграфіі «Пуцявіны роднага слова» С. Александровіч абараніў 15 чэрвеня г.г. доктарскую працу. Тут упершыню былі распрацаваны праблемы развіцця нацыянальнай літаратуры ў спалучэнні з станаўленнем беларускага перыядычнага друку і кнігадрукавання другой паловы XIX пачатку XX стагоддзяў (1861—1917 г.г.). «Пуцявіны роднага слова» ўяўляюць сабою вынік глыбокага роздуму аўтара над шляхамі фарміравання грамадскай думкі народа. Кніга напісана з сапраўдным палемічным запалам.

Бяру ў рукі «Полымя» № 8 з 1969 года... У часопісе вялікі нарыс «З майго падарожжа», дзе сабраны новыя звесткі пра Ф. Скарыну і развіццё беларускай асветы XVI стагоддзя. Вельмі даражу гэтым нумарам. Тут С. Александровіч апісаў нашую першую сустрэчу ў верасні 1967 года ў Сопаце. Я знаёміў дарагога госця з Гданьскам і Сопатам. С. Александровіч не мінаў ніводнай кнігарні, ён настойліва шукаў кніг па гісторыі польскага друку XV—XVI стагоддзяў. Заходзілі і ў бібліятэку ПАН у Гданьску, шукалі даваенную падрабязную карту Усходняй Прусіі. І ў гасцях не даваў яму спакою даследчыцкі клопат. Сцяпану Александровічу хацелася знайсці вёску Лайслендорф, дзе ў вайну знайшоў спачын яго сябра, малады беларускі паэт Аляксей Коршак.

У час яго пабыўкі ў Польшчы я бліжэй пазнаёміўся з жыццём пісьменніка. А належыць С. Александровіч да таго пакалення, якому ў вайну давялося многае перажыць. Яму, 20-гадоваму салдату горнастралковага палка, давялося трапіць у складзе марскога дэсанта ў Іран, потым на Крымскі фронт. У маі 1942 года быў паранены і праз некалькі дзён узяты фашыстамі з палявога шпіталя ў палон. Знаходзіўся С. Александровіч у лагеры ваеннапалонных у Джанкоі і Крывым Розе. Тры жудасных месяцы адсядзеў за калючым дротам, а потым удалося яму ўцячы на волю. Цяжкі пераход ад Крывога Рога да роднага Капыля, што на Случчыне, прадставіў ён у аповесці «Далёкія зарніцы». С. Александровіч уваходзіў у падпольную групу, выконваючы адказныя заданні. Пасля вызвалення працаваў і вучыўся ў сярэдняй школе, тэхнікуме, каб пасля закончыць Інстытут літаратуры. Зараз працуе дацэнтам кафедры беларускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя Леніна.

*Мацей Канапацкі*

## Народныя спевакі





Песня будаваць і жыць памагае. І той, хто з песняй крочыць у жыцці, той нідзе і ніколі не згіне, — так гаворыцца ў адной з савецкіх песень. Антаніна Акудовіч з Новай Луплянкі і Аляксандр Кардаш з Дольнай Таніцы (Беластоцкі павет) — вядомыя спевакі сваіх вёсак. Іх прыгожыя галасы ствараюць заўсёды добры настрой у нейкіх групавых спатканнях, у сямейных урачыстасцях. Гэтыя старэйшыя людзі прынялі ўдзел у мастацкай частцы «Мікрафон для ўсіх» падчас фэстыну БГКТ у Рыбаках у ліпені 1971 года. Антаніна Акудовіч спявала беларускую песню «Зялёны дубочак» і заняла яна першае месца ў гэтым конкурсе. Другое месца было прызнана Аляксандру Кардашу.

(мх)

*Фота В. Бура*

## ТЭЛЕВІЗАР —ГЭТА ЯШЧЭ НЕ ЎСЁ...

Так, эпоха пасіўнага ўспрыняцця ўсяго таго, што прапануюць нам тэлевізійныя студыі, пачынае ў нашы дні даваць выразныя прызнакі перамен. Якія гэтыя перамены і куды яны вядуць?

Можа, частку адказу на гэтыя пытанні дасць размова, якую мне давялося правесці нядаўна з таварышам Аркадзем Арцішэўскім, маладым селянінам з Залук, Беластоцкага павету. Тав. А. Арцішэўскі — член ПАРП, радны ГРН у Крулёвым Мосце, член ЗМВ, жанаты, мае сваю сям'ю, працуе на ўласнай гаспадарцы.

— Быў час, — гаворыць ён, — калі ў нас, у Залуках, быў супольны грамадскі тэлевізар. У вальнейшы ад працы час ды вечарамі праседжвалі пры ім і маладыя і старыя. Здавалася, што лепшага спосабу правесці вечар ці святочны надвячорак і быць не можа. І хоць тэлевізар часценька псаваўся, мы яго зараз жа аддавалі ў рамонт, і зноў ён быў цэнтрам, які гуртаваў і моладзь, і старэйшых. Але вось у нашым сяле ўжо ёсць 12 ці 13 тэлевізараў, і наш грамадскі тэлевізар — ветэран стаіць сабе забыты і сапсаваны. І гэта не таму, што няма каму пахадзіць каля яго. Проста цяпер для нас адно глядзець тэлевізійныя перадачы стала за мала. Робім мы на чале з старшынёй нашага гуртка ЗМВ Рыгорам Рагачом усё, каб адкрыць у нас клуб «Руху».

Я не стрываў і запытаў свайго размоўцу, ці часам з клубам не будзе таксама, як з грамадскім тэлевізарам.

— Не. Напэўна не, бо, бачыце, тэлевізар і ў клубе будзе. Яго можна будзе паглядзець, калі будзе ісці цікавая праграма. Але, апрача таго, у клубе будуць свежыя газеты, часопісы. Можна будзе пачытаць, пайграць у настольныя гульні, выпіць каву, пагаварыць з людзьмі. Час ад часу там мы арганізуем вечарыну з песняй ды з танцам. Калі нас і наведае хтосьці, будзем мець дзе сустрэцца. Напэўна народзіцца ахвота і самім нешта спрабаваць у мастацкай самадзейнасці.

І цяжка не згадзіцца з меркаваннямі тав. А. Арцішэўскага.

*М. Снарскі*

*З жыцця школ*

### ШКОЛА І ПГР

Пачатковая школа ў Валілах-станцыі ўжо некалькі год супрацоўнічае з ПГР-ам Валілы. Вясной гэтага года моладзь школы дапамагала ПГР-у пры пасадцы лесу і праполцы бульбы. За зробленыя грошы школа купіла магнетафон і арганізавала экскурсію класаў V—VIII у Белавежу. Увосень гэтага года 30 вучняў з класаў VII—VIII дапамагала выбіраць бульбу. За шэсць дзён працы яны сабралі 113 тон і зарабілі 7405 злотых. За гэтыя грошы вучні паедуць вясной будучага года на экскурсію на Мазурскія азёры.

Такім чынам, школа ў Валілах-станцыі ўмела спалучыла працоўнае выхаванне моладзі з добрым адпачынкам і азнаямленнем сваіх выхаванкаў з прыгажосцю роднага краю. (мг)

### САПРАЎДНЫ ДРУГ

Вучнёўская спулдзельня «Друг» з'яўляецца сапраўдным сябрам вучняў пачатковай школы ў Дашах Гайнаўскага павету. У ёй можна набыць усе вучнёўскія прыборы, свежыя булачкі, цукеркі і іншыя прысмакі. Сюды ж паступаюць і прадукты, патрэбныя для другога снедання, якое ўзімку арганізуе кіраўніцтва школы разам з бацькоўскім камітэтам. Гандлюе «Друг» бойка. У мінулым годзе абарот спулдзельні склаў суму 40 тысяч злотых. За зробленыя грошы спулдзельня закупіла школе пыласос за 1150 зл., прыдбала прас у кабінет практычна-тэхнічных заняткаў, купіла саджанцы фруктовых дрэў у школьны сад. У гэтым годзе толькі за верасень і кастрычнік абарот спулдзельні склаў каля 40 тысяч злотых. Асабліва актыўна і ахвярна ў ёй дзейнічаюць Яўгенія Манцюк, Славамір Манцюк, Віктар Шэвяк. Апякуецца спулдзельняй вопытны педагог — кіраўнік школы Ігнат Рашчэнка. Спулдзельня выхоўвае ў дзяцей важную якасць — гаспадарлівасць. (мг)

### АКТЫЎНЫЯ

Актыўна працуе гурток Лігі абароны краіны (ЛОК) у школе ў Луцэ, Гайнаўскага павету. Гурток налічвае 30 чалавек. Старшынёю яго з'яўляецца вучань VIII класа Юрка Стоцкі, а апекуном ад імя педсавета кіраўнік школы Янка Цівонюк. Члены школьнай арганізацыі ЛОК арганізуюць спаборніцтвы па плаванню, бо непадалёку ад школы цячэ рака Нараў, рамантуюць яны мясцовыя дарогі, урачыста святкуюць усе гадавіны, якія датычаць войска, праводзяць практыкаванні па стральбе, зімою арганізуюць яны лыжныя гонкі, кормяць лясных звяркоў і птушак і г.д. Гурток мае радыёстанцыю, якою карыстаюцца ўсе члены ЛОК на занятках.

Варта адзначыць, што ў павятовых абаронных спаборніцтвах (кіданне гранатай, бег з перашкодамі, стральба) вучні лучанскай школы занялі III месца. (ЯЦ)

## АДГАЛОСКІ

### АБ КАСТУСЮ КАЛІНОЎСКІМ

Папулярны на Беларусі сучасны пісьменнік Алесь Якімовіч — аўтар займальных апавяданняў, аповесцей і раманаў для дзяцей і моладзі — апублікаваў дакументальную аповесць «Кастусь Каліноўскі»*). Як гаворыць ужо сам загаловак, твор прысвечаны выдатнаму сыну беларускага народа, выдаўцу першай газеты на беларускай мове «Мужыцкая праўда», кіраўніку студзеньскага паўстання 1863 года ў Беларусі і Літве. У аповесці А. Якімовіч скрупулёзна выкарыстаў гістарыяграфічны матэрыял з беларускіх і польскіх крыніц і амаль цалкам падпарадкаваў яму развіццё падзей у творы. Дакументальнасць яго аўтар узмоцніў шматлікімі цытатамі з архіўных матэрыялаў і артыкулаў з «Мужыцкай праўды». Гэта не толькі не занізіла мастацкіх вартасцей аповесці, але павысіла іх, вельмі дакладна прадстаўляючы рэаліі і перадаючы атмасферу тых часоў.

Аповесць ахоплівае невялікі адрэзак часу. Яна пачынаецца вясною 1862 года, калі К. Каліноўскі пачаў выдаваць сваю «Мужыцкую праўду», і канчаецца трагічным сакавіком 1864 года, у якім выдатны барацьбіт гіне на шыбеніцы ў Вільні. Але дзякуючы шматлікім экскурсам чытач знаёміцца з бацькам Кастуся — Сямёнам Каліноўскім — уладальнікам невялікага фальварка Мастаўляне каля Ялоўкі на Беласточчыне, яго сям'ёй, са старэйшым братам Віктарам і яго ўплывам на героя аповесці, з сястрой і мачыхай. Знаходзім там абразкі з жыцця ў фальварку Якушоўка, каля Свіслачы, куды потым пераехалі Каліноўскія, з навукі Кастуся ў свіслацкай прагімназіі і Пецярбургскім універсітэце. Асноўная, аднак, увага адведзена падрыхтоўцы К. Каліноўскім паўстання і яго кіраўніцтву ім.

А. Якімовіч многа ўвагі прысвяціў ідэйнай барацьбе К. Каліноўскага ўнутры кіраўніцтва паўстаннем на Беларусі і ў Літве супроць лагера «белых», у якім, як вядома, гуртаваліся магнаты і заможная шляхта. Яны ў абароне сваіх класавых інтарэсаў гатовы былі загубіць паўстанне, абы толькі не дапусціць да ўдзелу ў ім шырокія народныя масы.

Многа прыгожых старонак аповесці прысвечана выдатным польскім паўстанцам Валерыю Врублеўскаму, Эразму Заблоцкаму, Зыгмунту Серакоўскаму і іншым баявым таварышам К. Каліноўскага. Паказаны яны як барацьбіты «за нашу і вашу свабоду» ў адданасці ідэі вызвалення свае радзімы з-пад прыгнёту царскага самадзяржаўя, прыхільнасці да імкненняў працоўнага люду атрымаць зямлю і свабоду і зразуменні для беларускага і літоўскага народаў, якія побач з сацыяльным вызваленнем змагаліся за нацыянальнае вызваленне.

Значная частка падзей аповесці адбываецца на Беласточчыне. Сямяцічы, Бельск, Саколка, Беласток, Белавежская пушча і іншыя лясы — гэта або месцы баёў паўстанцаў з царскімі войскамі, або мясціны падпольнай арганізацыйнай дзейнасці К. Каліноўскага. Для прыкладу, апісанне сутычкі паўстанцкага атрада В. Врублеўскага з царскімі войскамі генерала Манюкіна каля вёскі Валілы Беластоцкага павету:

«Першыя кінуліся ў атаку коннікі. Іх вялі афіцэры, што перайшлі да паўстанцаў з Беластоцкага гарнізона. Яны змялі і рассеялі па лесе пярэднія шарэнгі салдат, аднак у глыб лесу прабіцца не маглі і павярнулі назад. Не ўдалося прарвацца праз лес і стральцам з касінерамі. А тым часам падскочылі свежыя часці салдат з-пад Валілаў. Сілы аказаліся зусім няроўныя. Паўстанцы неслі немалыя страты, і Валерыю нічога не аставалася, як спешна адступіць пад моцным агнём ворага...»

Памяць аб гэтым бою захавалася ў легендзе, якая яшчэ і сёння бытуе ў сялян вёсак Валілы і Крулёвага стойла.

Аповесць А. Якімовіча мае вялікую пазнавальную і выхаваўчую вартасць. Добра было б, калі б яна як мага хутчэй у большай колькасці экземпляраў трапіла ў кнігарні і бібліятэкі Беласточчыны — радзімы слаўнага Кастуся Каліноўскага.

*Мікалай Гайдук*

*) Алесь Якімовіч, «Кастусь Каліноўскі» Мінск 1971.

Пачатак на стар. 1

## Пра студэнцкае падарожжа ў Савецкую Беларусь

Бачыла. Гэта была незабыўная сустрэча. Асабістае спатканне з гэтымі людзьмі яшчэ мацней нас звяжа з беларускай літаратурай.

План нашай экскурсіі быў вельмі багаты. Апрача заняткаў, мы знаёміліся з Мінскам і яго ваколіцамі. У Мінску мы былі ў тэатры імя Янкі Купалы, у музеях. Пабывалі мы таксама ў Навагрудку, месцы, дзе правёў свае юнацкія гады вялікі польскі паэт Адам Міцкевіч. Па дарозе мы заехалі ў Шчорсы, каб пабачыць стары дуб, пад якім, як кажуць, Міцкевіч пісаў «Гражыну». Наступная экскурсія, не менш цікавая, была ў Несвіж і ў Мікалаеўшчыну — родную вёску Якуба Коласа. На нас асаблівае ўражанне зрабіла пабыўка ў музеі Коласа ў Мікалаеўшчыне. Там мы сустрэліся з братам Коласа, які вобразна расказаў пра жыццё аўтара «Новай зямлі». Мы былі ў Хатыні. Нам нельга і немагчыма забыць гэтай супольнай магілы беларускіх вёсак! І цяпер мы бачым і чуем звон, які напамінае пра страшэнную смерць нявінных людзей.

Канец нашага падарожжа. Зноў сардэчныя, шчырыя словы. Нам ніколі іх не забыць. Да наступнай сустрэчы, дарагія мінскія сябры!

*Студэнты IV курса Беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта*

Пачатак на стар. 1

## БРАТЫ

ровы, ад якіх штодзень прадае на пункце скупкі 30 літраў малака.

Ян Серада, як і яго брат, спецыялізуецца перш за ўсё ў гадоўлі свіней. У гэтым годзе прадасць ён дзяржаве 20 штук свіней вагою да 100—130 кілаграмаў, а таксама 24 штукі парасят вагою 45 кілаграмаў да далейшай гадоўлі. Гадуе ён 3 адкормленыя вепрукі вагою да 300 кілаграмаў кожны. У гэтым годзе Ян Серада закончыў будову новай клуні. З сельскагаспадарчых машын мае ён электрарухавік, млынок-сьрутоўнік, малацілку, сячкарню, крайзэгу і іншыя.

Мікалай Серада вядзе 7-гектаравую гаспадарку. Збожжавыя культуры займаюць у яго больш 3 гектараў зямельных угоддзяў. Ураджаі атрымлівае ён даволі высокія. У Новай Волі ведаюць яго аднак перш за ўсё як жывёлавода. Гадуе ён 4 дойныя каровы, ад якіх прадае 30—50 літраў малака штодзень. Мае тры племянныя свінаматкі і 12 парасят. У гэтым годзе прадаў ён да далейшай гадоўлі 10 штук парасят вагою па 50 кілаграмаў кожнае. Зараз намераны прадаць яшчэ 10 штук свіней вагою да 100 і звыш ста кілаграмаў. Мікалай Серада намераны яшчэ павялічыць гадоўлю свіней, таму і пабудаваў у гэтым годзе новую абору.

Прыемна зайсці ў хату Мікалая Серады. Ёсць тут вада з крана, цэнтральнае ацяпленне, тэлевізар і г.д.

*Тэкст і фота Я. Цялушэцкі*

## БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

Працяг спіску беларускіх кніг, якія можна набыць у кнігарні на вуліцы Кілінскага ў Беластоку.

Гісторыя БССР. Вучэбны дапаможнік для вучняў сярэдняй школы, напісалі Л. С. Абецадарскі, М. П. Баранава, Н. Г. Паўлава, Мінск 1971, цана 3 зл. 80 гр.

Гэты падручнік — неабходная рэч для кожнага настаўніка, які выкладае беларускую мову ў пачатковай школе. У ім пададзены асноўны матэрыял па гісторыі беларускага народу і яго культуры. Падручнік змяшчае многа ілюстрацый, шэраг з іх каляровыя. Іх можна выкарыстаць на ўроках беларускай мовы і ўроках элементаў роднай гісторыі.

Чорны Кузьма, «Бацькаўшчына. Трэцяе пакаленне», Мінск 1970, стар. 440, цана 7 зл. 60 гр.

Спецыяльнае — школьнае — выданне дзвюх аповесцей класіка беларускай літаратуры Кузьмы Чорнага разлічана на вучняў ліцэяў, у праграме якіх выступаюць гэтыя творы. Кніга адрасавана таксама ўсім любіцелям беларускай прозы. Яна ў абавязковым парадку павінна апынуцца ва ўсіх школьных і грамадскіх бібліятэках.

Шубітыдзе Іван, «Палескія былі», Мінск 1969, стар. 360, цана 8 зл. 30 гр.

Партызанская дакументальная эпапея, складзеная з успамінаў камандзіра партызанскага злучэння, якое пачало сваю баявую дзейнасць, яшчэ быўшы невялічкім атрадам, удалым нападам на нямецкі гарнізон каля вёскі Чаромха, затым у ваколіцах Белавежскай пушчы знішчала гітлераўскіх захопнікаў. На Піншчыне яно разраслося ў магутную партызанскую армію, у складзе якой дзейнічаў таксама і атрад польскіх партызанаў імя Т. Касцюшкі. Аўтар успамінаў за баявыя заслугі быў адзначаны ўрадам Народнай Польшчы ордэнам Крыж Грунвальда.

Рэкамендуем усім, хто цікавіцца партызанскім рухам у часе апошняй вайны на Беласточчыне і ў Беларусі.

Сачанка Барыс, «Дарогі», Мінск 1971, стар. 432, цана 8 зл. 80 гр.

Аўтар — таленавіты малады беларускі празаік. Яго першая кніга выйшла ў 1960 годзе. З таго моманту амаль штогод Б. Сачанка кіраваў да чытачоў усё новыя свае творы ў паасобных кнігах. Да гэтага часу выйшла іх восем. Два зборнікі яго апавяданняў выйшлі на рускай мове, здабываючы аўтару шмат прыхільнікаў ва ўсім СССР. Зборнік «Дарогі» змяшчае апавяданні і аповесць «Апошнія і першыя».

Рэкамендуем усім любіцелям беларускай прозы. (мг)

## ці ведаеце, што...

...у Сямяціцкім павеце на працягу двух апошніх гадоў дрэнажавана 570 гектараў зямельных угоддзяў, а таксама меліяравана і загаспадарана 1183 гектары зялёных угоддзяў, што дазволіла сабраць дадаткова 4495 тон сена.

## DEMETER паявілася паўторна

Сельскагаспадарчы часопіс «Дэмэтэр», які выдае аддзел сельскай гаспадаркі і лясніцтва пры Прэзідыуме ВРН у Беластоку, зноў можна купіць у кіёсках «Руху» на Беласточчыне. «Дэмэтэр» перш за ўсё прызначаецца для аграномаў, заатэхнікаў, ветэрынараў, навуковых работнікаў і арганізатараў сельскагаспадарчай прадукцыі. Аднак вельмі добра было б, каб гэты часопіс апынуўся таксама на стале сялян, асабліва тых, якія маюць за сабой або нейкую сельскагаспадарчую школу, або атрымалі ўжо пэўныя прафесіянальныя веды на шматлікіх курсах. Рэдакцыйны калектыў часопіса імкнецца да таго, каб ён стаў агульнадаступнай трыбунай абмену вопытам і перадавымі ідэямі для ўсіх тых, хто на Беласточчыне актыўна займаецца сельскай гаспадаркай.

Першы нумар «Дэмэтэр», які паявіўся ў студзені 1971 года, апраўдаў надзеі рэдакцыі. Чытачы і ўстановы ў сваіх адгалосках пацвердзілі неабходнасць такога роду рэгіянальнага выдання..

Што ж прапануе рэдакцыйны калектыў «Дэмэтэр» у другім нумары? Змест часопіса багаты і разнастайны. Аднак усе публікацыі накіраваны на адну мэту; яны трапна адлюстроўваюць навейшы клімат у сельскай гаспадарцы і бяруць на прыцэл найбольш істотныя яе праблемы. Даведваемся мы, як на практыцы ажыццяўляецца ў Беластоцкім ваяводстве партыйнае кіраўніцтва ў арганізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці, якімі дасягненнямі могуць пахваліцца сельскагаспадарчыя гурткі, як на працягу 18-ці месяцаў выгадаваць ялоўку вагой у 450 кг., якім чынам дабіцца 50 цэнтнераў яравой пшаніцы з аднаго гектара, як гэта ўдалося сялянам на вопытных дзялянках у Сакольскім і Дуброўскім паветах, дзе і пад што карысна прымяняць угнаенні, што гадаваць на тарфяніках і пра многа, многа іншых спраў, з якімі найлепш пазнаёміцца ўжо непасрэдна на старонках «Дэмэтэр».

Заадно хацелася б звярнуць рэдакцыйнаму калектыву сяброўскую ўвагу, што ў артыкулах, якія змешчаны ў абодвух нумарах часопіса, замала, на наш погляд, практычнага вопыту перадавых сялян. Здаецца, што часопіс быў бы яшчэ болей цікавы, калі б ён паказваў, як у будніх умовах арганізуе сельскагаспадарчую вытворчасць вопытны хлебароб, якія ў яго здараюцца хібы, а што выходзіць найбольш карысна. (вр)



Дом Сяргея Каліноўскага з Гукавічаў Гайнаўскага павету.

*Фота: Я. Цялушэцкі*

## З НАГОДЫ VI З'ЕЗДУ

Сакольскі павет. Па ініцыятыве партыйнай арганізацыі сяляне вёскі Стараўляны грамадскім чынам палепшылі дарогу. Вартасць чыну — 15 тысяч злотых.

Партыйная арганізацыя ў Піражках была арганізатарам жвіравання дарогі ад вёскі да школы. Вартасць чыну — 6 тысяч зл.

Жвіроўня ў Ласоснай, у якой працуе 40 чалавек, выканала працы грамадскім чынам на 160 тысяч зл.

Гарбарня ў Крынках з нагоды VI-га з'езду працавала ў вольны дзень ад працы (ў нядзелю) і дала дадатковай прадукцыі на 150 тыс. зл.

Пачатковая школа ў Варатыншчыне пасадзіла 90 дрэвак на сваім пляцы і на дарозе да школы.

Гайнаўскі павет. Па ініцыятыве партыйнай арганізацыі 25 гаспадароў з Трасцянкі абавязаліся гадаваць па адной штуцы быдла больш.

Жыхары Грузкі навазілі 100 куб. метраў пяску на рамонт дарогі.

Сяляне Дашаў грамадскім чынам працавалі пры будове рамізы.

Жыхары Залешан выбрукавалі 100 метраў вуліцы. (мх)

## Беларуская літаратура

Аляксандар Баршчэўскі

## Перыяд Вялікага княства Літоўскага

### УСПАМІНЫ, ДЗЁННІКІ, ЗАПІСЫ ЧАСТКА III.

Філон Кміта-Чарнабыльскі — 1530—1587.

Найбольш поўныя біяграфічныя звесткі аб гэтым беларускім аўтары знаходзім у апрацоўцы А. Каршуновіча, які піша: «Кміта Чарнабыльскі... нарадзіўся на Украіне ў сям'і камандуючага кіеўскімі і чаркаскімі войскамі, буйнага землеўладальніка, якому належала некалькі даволі значных маёнткаў у тагачасным Вінніцкім павеце. Падобна іншым прадстаўнікам ваеннай арыстакратыі, ён служыў у войску і хутка прасоўваўся па службовай лесвіцы. Ва ўзросце 32 год Філон Кміта меў ужо чын ротмістра і быў назначаны адміністратарам пагранічнага з маскоўскай дзяржавай замка Остэр. А ў 1567 г .за асаблівыя заслугі перад дзяржавай у справах пагранічнай службы атрымаў пасаду старасты ў Оршы і паехаў туды на сталае месца жыхарства, дзе і пражыў да самай смерці. Памёр Філон Кміта-Чарнабыльскі з намінальным тытулам смаленскага ваяводы» (Гісторыя беларускай літаратуры, Мінск 1968 г., т. I с. 246).

Гэта зразумела, не вычэрпвае ўсяго жыцця Чарнабыльскага. Але ўжо са сказанага бачым, што быў ён па паходжанню украінцам і што лёс звязаў яго з Беларуссю. Такая міграцыя з Украіны ў Беларусь і наадварот была ў тыя часы з'явай частай. Была яна звязана з тым фактам, што ўся Беларусь і значная колькасць украінскіх земляў уваходзілі ў склад адной і той самай дзяржавы, Вялікага княства Літоўскага. Асеўшы ў Беларусі, Чарнабыльскі ў значнай ступені збеларушчыўся, пазнаў таксама мову і паслугоўваўся ёю і ў гутарцы, і ў пісьме.

У пагранічным горадзе Оршы Кміта Чарнабыльскі заняўся справай для пісьменніка не надта ганаровай — бо шпіянажам. Памятайма аднак, што Чарнабыльскі, мабыць, ніколі не лічыў сябе пісьменнікам, а толькі жаўнерам, верным Вялікаму княству Літоўскаму і Рэчыпаспалітай Польшчы. Маскоўская Русь была для Чарнабыльскага ворагам. У адносінах з ворагам не абавязвае далікатнасць і ветлівасць, тут кожны прыём дапушчальны. Зыходзячы, мабыць, з такіх паняццяў, Кміта Чарнабыльскі заняўся справай, да якой быў падрыхтаваны як вайсковец — справай разведкі на тэрыторыі Расіі. Высылаў ён на тэрыторыю Расіі сваіх людзей — шпіёнаў, якія пад постаццю жабракоў або купцоў даходзілі да самай Масквы. Некаторым з іх, падобна, удалося пабываць нават на двары Івана Грознага. Інфармацыі, сабраныя ад сваіх шпіёнаў, апрацоўваў ён у пісьмовай форме і высылаў іх або вяльможам Вялікага княства Літоўскага, або нават каралеўскаму двару ў Варшаве. Зрэшты, каралеўскі польскі двор у Варшаве ў часы пісання Чарнабыльскім даносаў перажываў вялікія клопаты. Якраз тады існавала ў Польшчы доўгатрывалае бескаралеўе. Значыць, дзяржава была аслабленай. А калі так, дык існавала пагроза інтэрвенцыі і вайны з боку ворагаў.

І так, пішучы свае даносы, Чарнабыльскі хацеў інфармаваць Варшаву і Літву аб сітуацыі ў Маскве, аб пазіцыі Івана Грознага, які быў патэнцыяльным ворагам Рэчыпаспалітай і мог распачаць ваенныя дзеянні. Але не толькі весткі, звязаныя з жыццём і палітыкай Маскоўскай дзяржавы, цікавілі Кміту Чарнабыльскага. Цікавіўся ён таксама ўнутранымі справамі Вялікага княства Літоўскага і Рэчыпаспалітай Польшчы. Быў у курсе палітычных і грамадскіх тагачасных спраў. Прымаў непасрэдны ўдзел у гэтых справах і падзеях. Бадай што найцікавейшай з іх была канцэпцыя пасадзіць на польскі трон Івана Грознага або яго сына. Падобна, з такой прапановай выступалі некаторыя вяльможы Вялікага княства Літоўскага. Кміту Чарнабыльскаму — чалавеку, ведаючаму маскоўскія парадкі, было даручана ўступіць у кантакт з рускім царом. Кантакт гэты быў Чарнабыльскім навязаны. Якія былі вынікі яго перапіскі з Масквой, сказаць цяжка. Факт аднак, што палякі пасадзілі на каралеўскі трон француза Генрыка Валуа. Бескаралеўе на нейкі час было ліквідавана. Кантакты Чарнабыльскага з маскоўскім царом вышлі на яў. Некаторыя з магнатаў абвінавацілі Чарнабыльскага ў антыдзяржаўных актах, у імкненні да вацарэння рускага тырана на польскім троне. У жыцці бывае па-рознаму, часта прыпісваюць людзям ідэі і імкненні, з якімі гэтыя людзі ўсё жыццё змагаліся. Так здарылася і з Чарнабыльскім. Паслядоўны вораг Масквы і Грознага ў вачах некаторых вяльмож станавіўся чалавекам Масквы. Факты сведчылі супраць Чарнабыльскага. Пісаў у Маскву? Пісаў. Даведваўся, ці маскоўскі цар мог бы сесці на трон у Варшаве? Даведваўся. Значыць, вінава-

## ЛЮДЗІ БГКТ

### Марыся Кузьміч



У выхаванні маладога пакалення ў духу любві і пашаны да роднай мовы і культуры найбольш можа зрабіць настаўнік беларускай мовы. Марыся Кузьміч, выкладчыца беларускай мовы ў Бабраўніках, навучае роднай мове ў класах V—VIII. На 62 дзяцей беларускую мову вывучае 56 асоб. Марыся Кузьміч у школе апякуецца і ашчаднай касай, і бібліятэкай. Мае ў школе шмат работы і прафесіянальнай і грамадскай. Апрача таго, з'яўляецца яна старшынёй гуртка БГКТ у Бабраўніках і свае абавязкі выконвае добра.

*Тэкст і фота М. Хмялеўскі*

## Настаўнікі Бельшчыны прапануюць

Справай, якая найчасцей паўтаралася на настаўніцкіх канферэнцыях Бельскага павету, былі навуковыя дапаможнікі. Аказваецца, што нашыя школы церпяць можа не столькі з прычыны малой колькасці дапаможнікаў, колькі з браку добрых дапаможнікаў. Адзін з асветных дзеячоў Бельшчыны выказваўся, што пачатковае школьніцтва гэтага павету забяспечана толькі ў 30 прац. адпаведнымі навуковымі дапаможнікамі.

Што можна зрабіць на ўласным, павятовым панадворку? Амаль з усіх бакоў чуюцца галасы аб цэнтралізацыі бюджэтных сродкаў на дапаможнікі ў павеце. Дагэтуль купляй дапаможнікаў займаліся грамадскія рады, і, як паказала практыка, такая дэцэнтралізацыя сродкаў аказалася непаразуменнем. Аддзел асветы, маючы сродкі ў сябе, можа паступова забяспечваць навуковымі дапаможнікамі паасобныя школы комплексна.

Здзейсніць гэта — справа нялёгкая. Вядома ж, што тыя самыя васьмікласоўкі маюць розныя памяшкальныя ўмовы, а ў сувязі з гэтым у адных можа быць кабінет, у іншых класа-кабінет, а ў яшчэ іншых нават на гэта нельга дазволіць. Зразумелым ёсць і тое, што кабінет можа весці адпаведна падрыхтаваны настаўнік. І гэта можна з большага назваць цяжкасцямі аб'ектыўнымі.

Каб іх злагодзіць, была запрапанавана апрацоўка плана забеспячэння навуковымі дапаможнікамі. План такі прадугледжваў бы тры часткі. План-мінімум ахопліваў бы ўсе школы, пасярэдзіне былі б школы, у якіх ёсць класа-кабінеты, і трэцяя частка, план-максімум, датычыў бы забеспячэння дапаможнікамі кабінетаў. Маючы на гэта грошы, аддзел асветы сам рэгулюе, якую школу і якія ёй дапаможнікі трэба забяспечваць у першую чаргу.

Аднак ёсць наступная цяжкасць. Менавіта прадпрыемства, якое забяспечвае навуковымі дапаможнікамі, аж у Беластоку. Настаўнікі ездзяць сюды па некалькі разоў, марнуючы каштоўны час, і не заўсёды з эфектам.

У Бельскім павеце нарадзілася думка, каб адкрыць філіял беластоцкага «Цэзасу» ў самым горадзе Бельск Падляшскі. Беручы пад увагу цэнтральнае палажэнне горада, філіял мог бы абслугоўваць Гайнаўскі і Сямяціцкі паветы. Аднак, каб паўстаў філіял, неабходныя памяшканні. У бліжэйшым часе новых інвестыцый такога тыпу не прадбачваецца. Але...

У Бельску з кожным годам прыбывае новых складаў. Неўзабаве ў новыя памяшканні пяройдзе «Цэнтраля насенна». Асвабодзіць склад. Гэта факт, што ён патрэбны ПЗГС-у, але ці нельга было б пры добрай волі адвесці нейкі куточак для школьных патрэб?

А калі ўжо не стварэнне складу навуковых дапаможнікаў, дык настаўнікі некаторых раёнаў просяць аб адкрыцці хаця б «узарцоўні». Практычна выглядала б гэта так, што на ўзор былі б тут выстаўлены акрэсленыя навуковыя дапаможнікі, якія кіраўнік ці настаўнік мог бы аглянуць і заказаць, а пастаўка адбывалася б цэзаўскім транспартам са складаў у Беластоку на адрас заказваючага.

А. К.

## ФРОНТАМ ДА ВЁСКІ

# Супольная ўласнасць

Супольная ўласнасць нерухомай маёмасці — з'ява на вёсцы не рэдкая. Пры падзеле супольнай уласнасці ўзнікае нямала праблемаў, і ў гэтай галіне закон з 26 кастрычніка, які змяняе цывільны кодэкс, уносіць многа новага.

Дагэтуль абавязвала права, што пры падзеле нерухомай маёмасці той, хто не атрымоўваў зямлі і будынкаў, меў поўную грашовую сплату свайго ўдзелу. Не мела пры гэтым значэння, ці быў ён звязаны з сельскай гаспадаркай. Новы закон уводзіць падобныя ўмовы, якія абавязваюць наследнікаў.

Сплаты атрымоўвае толькі той саўладальнік спасярод тых, якія зямлі не атрымалі, якія маюць іншую сельскую гаспадарку і на ёй працуюць, з'яўляюцца членамі вытворчага сельскага кааператыва, з'яўляюцца непаўналетнімі, або вучацца, з'яўляюцца трывала няздольнымі да працы.

Тыя, якія гэтым умовам не адпавядаюць, могуць атрымаць сплаты толькі тады, калі ў судзе або ў натарыюса зложаць заяву, што прыступяць да працы ў індывідуальнай гаспадарцы, або ўступяць у сельскі вытворчы кааператыў. У гэтым выпадку прызнаецца сплата, але выплата яе ўстрымоўваецца да часу прыступлення да працы на гаспадарцы, або ўступлення ў кааператыў. Калі б гэта не наступіла на працягу шасці месяцаў, то права сплат траціцца.

Абмежаванні гэтыя не адносяцца да мужа або жонкі — адносна зямлі, якая з'яўляецца іх маёмаснай супольнасцю, г. зн. набытай у часе супольнага жыцця. У такім выпадку, калі пры знясенні маёмаснай супольнасці гаспадарка прыдзяляецца толькі аднаму, то другі з іх атрымоўвае поўную сплату.

Суд, устаноўліваючы час і спосаб сплат, можа іх разлажыць на раты. Тэрмін сплат не можа быць даўжэйшы, чым дзесяць год.

Калі той, каму суд прызнаў сплату, перастае працаваць на індывідуальнай гаспадарцы, траціць права да тых сплат, якіх яшчэ не атрымаў. Гэта не адносіцца да тых, якія ўступілі ў сельскагаспадарчы кааператыў, або сталі трывала няздольнымі да працы. Таксама тыя, якія выступяць з прадукцыйнага кааператыва, а не пачалі працаваць на індывідуальнай гаспадарцы, трацяць права да сплат, якіх яшчэ не атрымалі.

У выпадках, калі сплаты належацца на той аснове, што той, хто іх атрымоўвае, працуе на іншай сельскай гаспадарцы, ці належыць да сельскага прадукцыйнага кааператыва, або заявіў аб гатоўнасці там працаваць, сплаты могуць быць абніжаны. Пры абніжэнні суд прымае пад увагу велічыню гаспадаркі, якая была супольнай уласнасцю, а таксама маёмасную і асабістую сітуацыю саўладальніка, які абавязаны да сплат, і таго, хто мае права да сплат.

Не могуць быць абніжаны сплаты непаўналетнім, таму хто вучыцца, або трывала няздольны да працы.

Мэтай закона з'яўляецца тое, каб, з аднаго боку, той, хто хоча і можа весці сельскую гаспадарку, мог купіць зямлю без перашкод, а з другога боку, той, хто гаспадарку весці не можа, асабліва людзі старэйшыя, мог пазбыцца часткі зямлі.

Дагэтуль не толькі нельга было купіць зямлю, калі гэта было нязгодна з правам аб абмежаванні падзелу сельскіх гаспадарак, але нават нельга было ў гэткіх абставінах набыць зямлю праз даўнасць, хоць бы хто самастойна карыстаўся з зямлі звыш дваццаці год. Новы закон гэтыя абмежаванні зносіць. Значыць, хто самастойна карыстаецца з нерухомай маёмасці 10 год, набывае ўласнасць незалежна ад устаноўленых законам абмежаванняў падзелу гаспадаркі.

*В. Склубоўскі*




Да нядаўна вёску Лысэ «мучыла» цераспалосіца, не дазваляючы ні на прымяненне машын, ні мінеральных угнаенняў. Але і на гэта прыйшоў час: прыехалі геадэты, паразмервалі, пазабівалі палікі, і гаспадары пачалі цешыцца новым, лепшым — калёніямі. Асталася адна толькі дробная рэч — вырашыць, як гаспадарыць на супольным выгане. Гэты выган не надта «цікавы», паколькі знаходзіцца ён над рэчкай Нарвай, а яна штогод залівае яго сваімі водамі. На гэта пакуль што няма сілы, і ад прыроды трэба вырываць тое, што даецца.

Згодна з існуючымі законамі, грунтовая супольнасць, выдзеленая пры камасацыі, не можа быць падзелена паміж гаспадарамі. Карыстаюцца ёю па-рознаму: раз больш, а раз менш згодна з загадамі. Зразумела, найбольш пажаданым спосабам загаспадарання з'яўляюцца розныя калектыўныя формы апрацоўкі. Аднак і гэтая форма патрабуе не толькі аднадумнасці гаспадароў, карыстаючыхся супольнасцю, але і адпаведных умоў, звязаных з апрацоўкай зямлі.

У вёсцы Лысэ гаспадары вырашылі, што пакуль што падзеляць між сабою гэтую супольнасць. — Самі падзялілі так добра, што лепш не мог бы зрабіць нават найбольш вопытны геадэт, — сказаў мне кіраўнік бюро геадэзіі ў Бельску Падляшскім.

Аднак тут засталося некалькі чалавек незадаволеных. Сярод іх былы солтыс і радны ГРН. Да іх далучылася яшчэ некалькі і, такім чынам, на прашэнні-жалабе было пастаўлена шэсць подпісаў незадаволеных падзелам выгану. Некаторыя гавораць, што ініцыятарам гэтай нязгоды стаў былы солтыс, які помсціць за тое, што гэты падзел і іншыя справы вырашаецца без яго ўдзелу.

Тым часам дваццаць гаспадароў, нягледзячы на супраціўленне шасці, пазабівалі калкі, парабілі агарожы і кожны на свой спосаб пачаў выкарыстоўваць выган. І ў іх пачала павялічвацца жывёлагадоўля. Скарга ж шасці пайшла ў адпаведныя ўстановы, суды. Пачалі раз'язджацца дэлегацыі ў Беласток, Варшаву. У Лысэ прыязджала шмат дэлегацый з розных устаноў. У павятовай радзе ў Бельску толькі гэтай справе адведзена спецыяльная, даволі тоўстая папка.

Не буду шукаць, чыя тут рацыя. Адно вядома, што не без віны тут (у мінулым) і павятовая рада ў Бельску, і што вельмі цяжка дыскутаваць з адным і другім бокам. Адны маюць за сабой закон, што супольнасці дзяліць нельга, а другія, ведаючы, што гэта спраўка групкі «разрабякаў», таксама стаяць на сваім.

Паводле загаду аддзела сельскай гаспадаркі і лясніцтва прэзідыума ВРН, калі гаспадары самі не раскінуць агарожаў, адміністрацыя будзе вымушана наняць трактар (на іх кошт) і павыкідаць гэтыя агарожы. Гаспадары нават слухаць пра гэта не хочуць. Гавораць, што яны заплоцяць штраф, а нават адсядзяць у турме, але на сваё вернуцца. Яны, гавораць, не дазволяць каб «пару» чалавек невядома чаму трасло вёскаю. У сваю чаргу, тыя, што скардзяцца, гавораць, што яны на бяспраўе не дазволяць і пастанова ўлад адносна разгарожы выгану павінна быць ажыццёўлена.

Уражанні, якія вывожу з Лысых, надта сумныя. У маленькай наднараўскай вёсачцы вартасць усяго падпарадкавана, уласна кажучы, прыналежнасці да групы задаволеных ці незадаволеных падзелам. Усё тут зводзіцца да аднаго: хай будзе ўсё, але не паддамся.

У аддзеле сельскай гаспадаркі ў Бельску гавораць, што ў шматлікіх вёсках гаспадары падзялілі між сабой супольнасці і што ў тых вёсках назіраецца значнае павелічэнне жывёлагадоўлі. Там, як напрыклад, у Галадах, дзе не падзелены або не загаспадараны выган іншым спосабам, адчуваецца недахоп корму жывёле.

У размовах, якія я правёў з рознымі людзьмі, кіруючымі сельскай гаспадаркай, паўтаралася сцвярджэнне, што, каб адпаведна вырашыць справу ў Лысых, перашкаджаюць існуючыя правілы. Магчыма. Мне аднак хацелася б напомніць словы Э. Герка, выказаныя на нарадзе галоўных рэдактараў 27 верасня г.г.: «Калі сёння хто-небудзь спасылаецца на такія ці іншыя правілы, гаворачы, што іменна яны перашкаджаюць яму ўстараняць зло, гэта абазначае, што гэты чалавек спасылаецца на тыя правілы ў асноўным для ўласнай патрэбы».

А. Лабановіч

ты. Да такога вываду прыйшла знаць на Рудніцкім з'ездзе ў 1574 годзе. Было пастаноўлена прызначыць Чарнабыльскага да судовай адказнасці. І вось тут верны служака Рэчыпаспалітай забушаваў страшэнна ў сваёй Оршы. Пачаў высылаць кругом лісты, у якіх выясняў, што быў толькі інструментам у руках феадалаў, што кантакт з Масквой ніколі не быў яго ўласнай ідэяй. Атакаваў крывадушлівасць тых, хто заахвочваў яго да навязання кантактаў з Масквой, а зараз яны ж хочуць прыцягнуць яго да судовай адказнасці.

Валовіч — падканцлер Вялікага княства Літоўскага, якому пісаў у гэтай справе Кміта Чарнабыльскі, мабыць, паверыў у нявіннасць Кміты. Валовіч не мог не ведаць, што Чарнабыльскі быў толькі выканаўцам волі вялікіх палітычных ігракоў. Зрэшты, Чарнабыльскі ў сваіх лістах выразна называў прозвішчы тых, хто заахвочваў яго да кантактаў з Масквой.

Так ці інакш, Чарнабыльскі ачысціўся з закідаў, давёў сваю вернасць у адносінах да Польшчы і Вялікага княства Літоўскага. А доказам гэтага ачышчэння можа быць той факт, што атрымаў намінальны тытул смаленскага ваяводы. У чарговым нумары «Нівы» зоймемся характарыстыкай «Допісаў» Кміты Чарнабыльскага.




Небяспека рака лёгкіх расце. На гэтую хваробу цяпер памірае ў два разы больш людзей, чым ад туберкулёзу.

Хвароба была даўней рэдкай у жанчын, але нарастае, бо і жанчыны штораз больш кураць.

На свеце распачалася вострая барацьба супраць курэння. У Беластоку таксама існуе Ваяводскі камітэт барацьбы з курэннем папяросаў.

Гэты камітэт запрасіў аднойчы і прадстаўніка нашай рэдакцыі на вялікі кансіліум, прысвечаны шкоднасці курэння і метадам барацьбы з ім. Таварыству карысна распаўсюдзіць свае ідэі.

Што ж, раскажам чытачу аб тым, аб чым мы даведаліся. Уражанне, якое выносіцца з такога кансіліума, прыгнятаючае. Самыя вялікія славы беластоцкай медыцыны без прыкрас гаварылі, што дзеецца з чалавекам, які курыць. Курыць 5 год, 10, 20. 20 год курэння хопіць чалавеку, каб у 60 год жыцця стаў ён невылячальна хворым на рака лёгкіх. Ад курэння збіраецца ў яго лёгкіх столькі смалы (так!), што ніякі арганізм гэтага не вытрымлівае. У жанчын, курачых папяросы, узрост захворвання на рака лёгкіх зніжаецца нават да 40 год.

Дым ад папяросаў таксама шкодны, хаця ў меншай меры, для тых, хто яго ўдыхае ў прысутнасці курыльшчыка.

Вывад такі: абсалютна ўсе павінны зразумець шкоднасць курэння. Кінуць курыць найлепш адразу. Калі хто не можа адразу, сістэматычна змяншаць колькасць выкураных папяросаў у дзень.

Курыльшчыкі павінны сістэматычна праходзіць фотарадыялагічныя даследаванні.

Пасля заканчэння спамянутага лекарскага кансіліума на тэму рака лёгкіх, я пільна ўглядалася, ці пасля двух гадзін дакладаў ніхто не схопіцца за папяросу. Шчыра прызнаюся, не было такіх.

Вядомы прапагандыст барацьбы з ракам лёгкіх, а затым і з курэннем папяросаў, дацэнт др Ул. Прэнгоўскі сам ужо даўно кінуў курэнне. Сцвярджае, што адчувае сябе дасканала.

Вучоныя з усяго свету сцвярджаюць, што найбольшаму курыльшчыку нічога не пагражае, калі ён адразу кідае курэнне. Кажуць, найгорш вытрымаць тры тыдні, а потым усё ідзе, як па масле.

(вл)

## Мастацтва мінулых стагоддзяў



*Падвеска скроневая умбанападобная. Бронза. III ст. да н.э. — V ст. н.э. Буракова, Гарадоцкага раёна. Раскопкі К. П. Шута 1965 г.*



*Абразок з адбіткам Спаса Эмануіла. Серпантын. XII ст. Знойдзена ў г. Пінск. Раскопкі П. Ф. Лысенкі 1964 г.*



*Славуты крыж Еўфрасінні Полацкай. Вонкавы бок з залатых пласцін з эмалевымі рысункамі. Упрыгожаны дарагімі каменнямі і жэмчугам. Даўжыня 51 см. Выкананы ў 1161 годзе полацкім ювелірам Лазарам Богшам. Украдзены з Магілёва нямецкімі акупантамі ў 1941 г.*

Выдавецтва «Беларусь» у бягучым годзе падарыла любіцелям старажытнасцяў дасканалы фальдэр Г. В. Штыхава і П. Н. Захарэнкі «Старажытныя скарбы Беларусі»[1]).

Фальдэр складаецца са змястоўнага кароткага ўступу, знаёмячага чытача з асноўнымі гістарычнымі мовамі, у якіх узніклі паасобныя творы старажытнага мастацтва. Затым ідуць «Тлумачэнні да ілюстрацый». Асноўную частку выдання складаюць чорна-белыя і каляровыя фота знаходак. Сярод іх прадстаўлены творы мастацкіх вырабаў з металаў, каменя, шкла, косці і дрэва, датуемыя ад III стагоддзя да нашай эры па XVI стагоддзе нашай эры, а якія знойдзены археолагамі на тэрыторыі Беларусі. Разам у выданні прадстаўлена каля 60 знаходак.

«Усё гэта, — як пішуць аўтары ва ўступе, — толькі невялікая частка гісторыка-культурных каштоўнасцей, якія захоўвае беларуская зямля. Але нават нешматлікія знаходкі дазваляюць меркаваць аб яркай самабытнай культуры насельніцтва заходніх зямель старажытнай Русі. А менавіта гэтае насельніцтва і паклала пачатак беларускай народнасці».

Фальдэр выдадзен на высокім тэхнічным узроўні. Усе тэксты ў ім змешчаны на трох мовах: беларускай, рускай і англійскай.

(мг)

1) *Старажытныя скарбы Беларусі, Мінск 1971.*



*Вадаліў. Бронза. Зроблена ў Паўночнай Германіі ў першай палове XIII ст. Знойдзена ў г. Гродна.*



*Грыўня. Серабро. Вага 216,5 г. IX ст. Парэчча, Глыбоцкага раёна. Знаходка 1960 г.*

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### СВЯТОЧНАЯ ЛЕГУМІНА

Кажуць, што легуміна цяпер не ў модзе. Пра легуміну разам з назвай зусім забыліся. Вядома, працуючыя жанчыны маюць замала часу, каб займацца легумінай на штодзень. Але з нагоды свята, варта прыпомніць сабе гэтую старую польскую патраву, якая так смакуе і дзецям, і дарослым.

Мае яна яшчэ адно «за»: праца пры ёй чыстая, прыемная і пахучая! Акрамя таго, не цяжкая! Так што такую легуміну, як мы прапануем, можна зрабіць нават у апошнюю хвіліну перад святам і падаць гарачую. Адпаведнай яна будзе і на Каляды, і на карнавальную складчыну, якіх у бліжэйшым часе напэўна не забракне.

Дык падставай нашай легуміны будзе вялікі апельсін ці лімон. Хаця пануючы на Беласточчыне грып паглынуў цэлае мноства лімонаў, думаю, што не забракне іх і на свята. Калі ж удасца вам купіць апельсіны, будзе яшчэ лепш. Калі хто захоча зрабіць легуміны больш (напрыклад, удвая больш, чым мы прапануем), дык можа ўзяць 1 лімон і 1 апельсін — атрымаецца вельмі смачнае спалучэнне.

Такім чынам цэлы лімон ці апельсін варым у вадзе, пакуль не стане зусім мяккі. Тады вымаем яго з вады, разразаем, вымаем семячкі, пасля чаго дакладна расціраем звараны лімон ці апельсін з дзвюма шклянкамі цукру.

Убіваем па адным 12 жаўткоў, дадаем лыжку—дзве крухмалу і так расціраем прынамсі паўгадзіны. Калі ўжо цеста будзе мець гушчыню смятаны, уліваем у яго пену з 12 бялкоў (павінна яна быць настолькі цвёрдая, што не будзе выліваццa з перавернутай каструлькі). Цеста вельмі асцярожна размешваем лыжкай зверху ўніз, а пасля ўліваем у форму, змазаную маслам і пасыпаную молатымі сухарамі (цёртай булкай, найлепш, каб булка была салодкая). За 15 мінут перад падачай цеста ставім у духоўку. Пільнуем, каб яно не перапяклося.

Легуміну варта падаць гарачай. Напэўна, некаторыя вопытныя гаспадыні скажуць, што на вечар гарачая легуміна не пасуе. Усё ж спрабуйце! Не будуць госці хваліць ні вашага схабу, ні нават індыка, кожны скажа: «Але ж легуміна ў іх была!»

Нашым чытачам, якія ўжо святкуюць, перасылаем самыя шчырыя пажаданні смачных і здаровых свят. Паўтараем яшчэ раз: добра падумайце над тым, якія патравы ёсць сэнс падрыхтаваць на свята. Не варта рабіць гэтых патраў замнога, асабліва калі не збіраеце большай колькасці гасцей. Найчасцей, прынамсі трэцяя частка гэтых патраў марнуецца. Ну, але калі ў вас ужо штонебудзь застанецца, дык дамо вам у наступным нумары параду, як рацыянальна выкарыстаць пасвяточныя рэшткі.

*Гаспадыня*

## АПЕРАЦЫЯ „PAPER CLIPS"

У перакладзе з англійскай мовы гэта гучыць зусім бязвінна: «пейпер кліпс» — канторскія сашчэпкі. Загад, што паступіў пад такой назвай з Пентагона, не выклікаў асаблівага энтузіязму сярод салдат хімічнага корпуса амерыканскай арміі.

...Ішоў 1945 год. «Тысячагадовы» гітлераўскі рэйх адлічваў свае апошнія гадзіны. Свет жыў надзеяй, людзям верылася, што ад гэтага часу малох вайны назаўсёды пакідае зямлю. Аб гэтым гаварылі, марылі і ў падраздзяленнях хімічнага корпуса. І таму загад у тэрміновым парадку адшукаць і захапіць архівы нямецкага канцэрна «ІГ Фарбеніндустры» — выклікаў здзіўленне ў большасці салдат. Вайна заканчваецца! Каму патрэбны цяпер гэтыя груды паперы з рэцэптамі жудасных смяротных газаў? Але Пентагон настойліва патрабаваў: неадкладна выслаць у Штаты ўсё, да адзінага дакумента. І салдаты абшуквалі падвалы, выцягвалі з сейфаў і грузілі на цяжкія «студабекеры» стосы чорных папак, на кожнай з якіх значылася: «зусім сакрэтна»!

А ў гэты час спецыяльная група афіцэраў шукала ў гарадах Рура вядучых вучоных-хімікаў. Адным з першых у іх спісе стаяў доктар Герхард Шрадэр.

Гэта менавіта ён з вясны 1937 года ўзначальваў усе работы, звязаныя з вырабам атрутных рэчываў у рамках фірмы «Байер АГ». Фірма ўваходзіла ў састаў канцэрна «ІГ Фарбеніндустры» і знаходзілася пад асобай апекай фюрэра. У лабараторыях гэтай фірмы былі створаны для Гітлера найбольш эфектыўныя віды «цуда-зброі» — газы «табун», «зарын». Дзесяткі чалавеканенавіснікаў з вучонымі ступенямі працавалі над тым, каб фашызм мог хутчэй атруціць мільёны людзей. І сярод гэтых забойцаў у белых халатах, якія аддалі свой навуковы талент вар'яцкім задумам фюрэра, першае месца, безумоўна, належала Герхарду Шрадэру. Нацысцкія завадатары называлі яго «самым таленавітым вучоным рэйха», «бацькам нервова-паралітычных газаў». Пад яго кіраўніцтвам былі створаны страшэнныя сродкі хімічнага знішчэння людзей, у тым ліку і газ «цыклон — Б». Пасля лабараторных выпрабаванняў ён быў рэкамендаван для «шырокага выкарыстання» ў фашысцкіх лагерах смерці.

Для Рудольфа Геса, каменданта канцлагера Асвенцім, гэта з'явілася «прыемным сюрпрызам». Справа ў тым, што штурмбанфюрэр СС доўгі час пакутаваў ад бяссонніцы. Надыходзіла ноч, але Гес заставаўся ў кабінеце. Яму не давала спакою пачуццё «незадаволенасці» вынікамі сваёй «работы». Масавыя расстрэлы вязняў у траншэях ужо не задавальнялі гэтага ката. За адзін дзень так можна было забіць усяго сто-трыста чалавек. А Гес жа марыў знішчаць тысячамі. «Як паскорыць канвеер смерці?» — гэта думка літаральна праследавала эсэсаўцаў Асвенціма.

Калі Гес даведаўся, што газам «цыклон-Б» можна на працягу дзесяці мінут знішчыць толькі ў адной камеры дзвесце чалавек, ён зрабіў такі запіс у сваім дзённіку: «З гэтай мінуты мы з Эйхманам спалі спакойна: метад быў знойдзен».

«Цыклон-Б», «зялёны крыж», «сіні крыж», «жоўты крыж» — з дапамогай гэтых газаў толькі ў Асвенціме былі знішчаны сотні тысяч людзей.

«На забойства вязняў у газавых камерах, — успамінаў пазней Гес, — звычайна патрэбна было ад 3 да 15 мінут... Мы ведалі, калі людзі паміралі, таму што смерць перапыняла іх крыкі. Перад тым, як адчыніць дзверы і прыбраць целы, мы звычайна чакалі на працягу паўгадзіны. Пасля таго, як целы выносілі з камер, нашы спецыяльныя каманды знімалі з іх пярсцёнкі і золата з зубоў, вырваных у трупаў».

Заручальныя пярсцёнкі, дзіцячыя распашонкі, нават жаночыя валасы — усё бралася на ўлік. У спецыяльным цэнніку было ўказана: кілаграм чалавечых валасоў каштуе дзесяць марак. Каб сабраць гэты кілаграм, трэба было забіць мінімум шэсць жанчын. Жудасна, але гэта факт: канвеер смерці Геса не толькі планамерна знішчаў «непажаданых рэйху людзей», але і прыносіў прыбытак. Забойства насіла зусім «дзелавы характар».

Зусім дзелавы характар насілі і адносіны Геса з заправіламі канцэрна «ІГ Фарбеніндустры». Быў заключан камерцыйны дагавор. Канцэрн прадаваў эсэсаўцам газы, а тыя ў сваю чаргу пастаўлялі жывы тавар — вязняў канцлагераў. Забойцам у белых халатах яны былі патрэбны як рабочая сіла і як «паддоследныя трусы» для далейшых «навуковых эксперыментаў».

Вось усяго некалькі радкоў з пісьмаў, атрыманых эсэсаўцамі ад кіраўніцтва «ІГ Фарбеніндустры».

«Мы атрымалі вашы ўмовы, аднак цана 200 марак за адну жанчыну здаецца нам занадта высокай. Мы прапануем заплаціць не больш чым 170 марак за галаву. Калі гэта для вас будзе прымальным, мы возьмем жанчын».

«...Атрымалі заказаных 150 жанчын. Нягледзячы на змарнелы стан, яны прызнаны здавальняючымі. Мы будзем

# ТРЫБУНА чытачоў

## ШТО БУДЗЕ З КРЫВЯЦІЦКІМ ЛЕСАМ?

Жыхары сяла Крывяцічы маюць супольны лес. Гэта так званы колішні сервітут. Абшар лесу каля 300 гектараў. Як дагэтуль, лес гэты выкарыстоўваўся ў жывёлагадоўлі. Сяляне пасвілі там кароў, авечак і коней. Але вось раптам сталася штосьці дзіўнае. У частцы лесу (зямля тут пераважна IV—V класа) лясніцтва з Бельска Падляшскага, па выкарчаванні старога, пачало садзіць новы лес. У сувязі з гэтым у Крывяцічах значна зменшыўся абшар «зялёных угоддзяў». Сяляне замест гадаваць па чатыры — пяць кароў, з браку травы і месца выпасу, гадуюць па адной — дзве. З гэтай справай звярталіся сяляне да вышэйшых улад. Аднак канкрэтнага адказу не атрымалі. І цяпер не ведаюць, што будзе з іх лесам. Ці пяройдзе ён пад лясніцтва? Калі так, то аб павышэнні жывёлагадоўлі ў крывяціцкіх умовах нельга і марыць. Таму што не было б чым карміць жывёлу вясною і летам.

*Ваня Кірызюк*

## НОВЫ КІЁСК

Нядаўна Гайнаўка атрымала новы, па-сучаснаму абсталяваны кіёск «Руху», які знаходзіцца ў цэнтры горада. У новым кіёску прыгожа абсталяваны рэгалы, на якіх разложан увесь тавар. Новы кіёск асабліва прыгожа выглядае вечарам і ноччу, калі запальваюцца ў ім электралямпачкі.

(яц)

## Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: У маім доме ў Беластоку, які выключаны з публічнай гаспадаркі кватэрамі, амаль 20 год жыве кватарант, які плаціць рэгулярна кватэрную плату і паводзіць сябе адпаведна. Аднак ён мае вельмі сварлівую і дакучлівую жонку і псіхічна хворага дарослага сына, які часта буяніць. Жыць з імі проста немагчыма. Ці магу я патрабаваць прымусовага высялення кватаранта, а калі не (паколькі ён парадачны чалавек) — яго жонкі і сына?

Адказ: Умова найму заключана паміж вамі і кватарантам, які прадстаўляе таксама правы сем'янінаў. Таму няма праўных асноў, каб патрабаваць прымусовага высялення членаў сям'і кватаранта. Аднак кватарант, паколькі ён прадстаўляе правы сем'янінаў, адказвае за іх паводзіны і таму, калі яны паводзяць сябе неадпаведна і дакучліва, можна патрабаваць прымусовага высялення кватаранта разам з яго сям'ёй.

* * *

У вашым выпадку аснову да гэтага давалі б паводзіны жонкі кватаранта. Паводзіны яго сына маглі б быць асновай толькі тады, калі б было даказана, што кватарант можа запабегчы дрэнным яго паводзінам, што, зразумела, у выпадку псіхічнай хваробы не заўсёды магчыма.

---

трымаць вас у курсе справы адносна праходжання эксперыменту».

«...Доследы былі праведзены. Усе паддоследныя асобы памерлі. Мы неўзабаве звяжамся адносна прысылкі новай партыі».

Да многіх з гэтых нечувана жудасных эксперыментаў меў дачыненне і Герхард Шрадэр.

Таму ён наўрад ці быў здзіўлен, калі ў адзін з веснавых дзён сорак пятага года ля яго вілы спыніўся паліцэйскі «джып» арміі ЗША. Без доўгіх тлумачэнняў «бацьку нервова-паралітычных газаў» было прапанавана сесці ў машыну. Але ўсе страхі доктара Шрадэра і яго бліжэйшых асістэнтаў хутка развеяліся. Ім не давялося праводзіць бяссонныя ночы ў змрочных турэмных камерах. Амерыканскія афіцэры даставілі іх у спецыяльны лагер для «інтэрніраваных вучоных». Тут нацысцкім забойцам было прапанавана падрабязна апісаць усё, што ім вядома аб работах, звязаных з вырабам хімічнай зброі ў фашысцкай Германіі. Для плённай «мемуарнай» работы ў лагеры былі створаны ўсе ўмовы. Клапатлівыя афіцэры-хімікі з ЗША не падганялі сваіх нямецкіх калег. Усё ішло о'кэй! Аперацыя «Пейпер кліпс», на думку генералаў Пентагона, была праведзена выдатна. У ходзе яе было захоплена і вывезена ў Штаты некалькі тысяч сакрэтных патэнтаў «ІГ Фарбеніндустры».

Для якой мэты?

*(Заканчэнне праз тыдзень)*

## КЛУБ

Калісьці ў Дубічах Царкоўных у будынку святліцы-рамізы існаваў клуб «Рух», але ўжо некалькі год як тут змяшчаецца бібліятэка. А клуб жыхарам вёскі таксама патрэбны, і таму прэзідыум ГРН паклапаціўся і аб гэтым: нядаўна прыбудавана памяшканне пры рамізе на гэты клуб. Фундамент быў зроблены грамадскім чынам жыхарамі вёскі яшчэ ў мінулым годзе. Пакуль клуб яшчэ не закончаны, але ёсць перспектывы, што да зімы будзе зроблены і вёска будзе зноў мець свой клуб.

Хочацца яшчэ прыпомніць і тое, што на пабудову клуба былі дадзены складчыны жыхарамі вёскі па 100 зл. ад хаты. На жаль, не ўсе заплацілі і пераважна тыя жыхары засталіся «вольнымі», якія не будуць «вылазіць» з гэтага клуба.

*М. Панфілюк*

## У БАБІКАХ

Нядаўна ў Бабіках утвораны пункт скупкі жывёлы. Ужо не трэба везці кормнікаў або быдла прадаваць у Саколку. У дзень скупкі жывёлы, а гэтым днём з'яўляецца серада, са спулдзельчага банку ў Шудзялаве прыязджае касір і на месцы выплачвае сялянам грошы.

*М. Хмялеўскі*

## Сэрдэчныя ТАЙНЫ

*Дарагое «Сэрцайка»!*

Мне 24 гады. Жыву на гаспадарцы. Сябравала я з хлопцам 5 год. Ужо хутка тры гады, як ён вярнуўся з войска. Прыходзіў да мяне штовечар, бо і ён жыве ў гэтай жа самай вёсцы. Калі быў у арміі, атрымоўваў водпуск і заўсёды наведваў мяне. Год часу назад ён прапанаваў мне жаніцца, але я сказала, каб яшчэ пачакаць, і ён згадзіўся. Надалей мы сябравалі, гаварыў, што мяне вельмі кахае, і я таксама іншых па-за гэтым хлопцам, не бачу. Паводзіў сябе мой хлопец вельмі парадачна і тактоўна, з чаго я была вельмі задаволена. За гэта ён стаў мне яшчэ даражэйшым. Але вось аднойчы прыйшоў да мяне і сказаў, што ўжо мы добра знаем адзін другога і маглі б пазволіць сабе на «сапраўднае каханне». Абяцаў, што і так мяне ніколі не пакіне і няма чаго баяцца. Але я на гэта не згадзілася, сказала, што мусіць сябе паводзіць, як дагэтуль. Тады ён, хоць не гневаўся на мяне, сказаў, што прыйшоў да мяне апошні раз. Ад таго часу прайшоў ужо месяц, а мой хлопец не з'яўляецца ў мяне. Не ведаю, што мне рабіць, не сплю па начах, усё думаю аб ім. Часам разважаю, што, калі ён дагэтуль быў сапраўды парадачным і тактоўным хлопцам, мо не будзе гневацца і вернецца. Але думкі прыходзяць і іншыя — можа знайшоў іншую лёгкадумную дзяўчыну і мяне пакінуў сапраўды?

Парай, дарагое Сэрцайка, што мне рабіць? Чакаю і дзякую за параду.

*Эля з Беластоцкага.*

*Эля!* Як прыемна атрымоўваць і чытаць пісьмы ад такіх разумных дзяўчат. Бо такіх лістаў пішуць да нас мала, больш за ўсё прыходзяць пісьмы распачлівыя, калі ўжо запозна на добрыя рады. Пастyпак твой, Эля, павінен быць прыкладам для іншых маладых дзяўчат, якія іменна лёгкадумна ў такіх выпадках паступаюць, а потым шукаюць ратунку.

Цяпер табе, Эля, цяжка, але калі твой хлопец цябе сапраўды кахаў, напэўна вернецца. Падумай толькі, калі ты кахаеш яго, ці ж змагла б ты без прычыны адыйсці ад яго? А калі не вернецца — значыць не кахае, тады і няма чаго шкадаваць, бо якое ж тады шчасце, калі няма ўзаемнага кахання? А аб іншай дзяўчыне, як пішаш, лёгкадумнай, не думай, з такімі не вельмі хочуць жаніцца. Мне здаецца, што проста твой хлопец старым спосабам хацеў цябе, як гавораць, лепш пазнаць (хоць знае ж цябе вельмі добра — 5 год!) і таму зрабіў такі брыдкі ўчынак. Калі гэта так, тады чакай, вернецца. А калі вернецца, паступай і далей разумна, як дагэтуль.

*Жадаю ўсяго найлепшага!*
*Сэрцайка*

## Маёр Віхр расказвае пра сябе і сваю разведку

У 1967 годзе друкавалі мы раман Юльяна Сямёнава «Маёр Віхр», у якім ішоў расказ пра гераічную барацьбу савецкіх разведчыкаў у гады вайны пад Кракавам. Барацьба была сапраўды драматычнай, і многія нашы чытачы пыталі нас, ці апісаныя Сямёнавым падзеі праўдзівыя.

Потым мы паведамлялі, што знайшоўся галоўны герой рамана маёр Віхр, назвалі яго прозвішча — Яўген Беразняк.

Цяпер чытачы атрымаюць найбольшы сюрпрыз: маёр Віхр напісаў успаміны пра сваю групу. Мы вырашылі надрукаваць іх. Чытачы ўрэшце змогуць самі задаволіць сваю цікаўнасць: параўнаць раман з тым, як было сапраўды. Можам запэўніць: літаратура незвычайна хвалюючая!

Успаміны маёра Віхра пачнем друкаваць ад Новага Года.

## ПРЫЕМНЫ СКВЕРЫК

У Нарве, Гайнаўскага павету, ёсць невялічкі скверык. Абгароджаны ён сеткай. Пад дрэвамі паабапал сцяжынак стаяць прыгожа памаляваныя лавачкі. Прыемна тут адпачыць у вольную хвіліну.

(яц)



*Вёска Лука.* *Фота: Я. Цялушэцкі.*

## ЯК ВЫПІСАЦЬ «НІВУ» НА ЗАХАДЗЕ

Гадавая падпіска «Нівы» складае: у ЗША і Канадзе $ 9,30, у ФРГ ДМ 19, у іншых капіталістычных краінах $ 4,50.

Ніжэй змяшчаем спісак замежных контрагентаў у паасобных краінах, у якіх можна падпісацца на ўсе польскія часопісы. Гэта найбольш выгадны спосаб падпісацца на «Ніву». Надалей таксама можна заказваць «Ніву» праз БКВЗ «Рух».

1) **AUSTRALIA**
**Messrs Contal Co.**
**Mutual Arcade**
**266 Flinders Street**
**Melbourne, Vic. 3000**

2) **AUSTRIA**
**„Globus"**
**Zeitungs-Druck-und Verlagsanstalt**
**Höchstadtplatz 3**
**1200 Wien 20**

3) **ANGLIA**
**Earlscourt Publications Ltd., 6, Warwick Rd., Earl's Court London S. W. 5**

4) **BELGIA**
**Agence et Messageries de la Presse s. s.**
**1, rue de la Petite Ile**
**1070 Bruxelles**

**Vander Editeur**
**10, rue de la Monnaie**
**Douvain**

5) **KANADA**
**S. Proszowski**
**722, Qeen Street W.**
**Toronto 140, Ontario**

6) **FRANCJA**
**La Boutique Polonaise**
**25, Rue Drouot**
**Paris IX-e**

7) **NRF**
**W. E. Saarbach GmbH**
**5 Köln 1**
**Follerst. 2**

8) **USA**
**European Publishers Represent. Inc.**
**11—03 46 th Avenue**
**Long Island City**
**New York 11101**

9) **SZWECJA**
**AB Nordiska Bokhandeln**
**Fack, 101 10 Stockholm 1**

## наша ПОШТА

Калі ласка, падайце канструкцыю і памеры тэлевізійнай антэны да прымання праграмы з Гродна, канал 3. Я сваім спосабам зрабіў некалькі тыпаў антэн, але без выніку: нячыстая фонія, ды і візія слабая і «снежыць».

*Мікалай Чэпель, Беласток*

У наступным нумары змесцім канструкцыю антэн на Гродна і Брэст (такіх просьбаў мы мелі больш), аднак папярэджваем: у вашым выпадку, магчыма, справа не ў антэне: гродненская станцыя слабая, і не ўсюды ў Беластоку можна яе прымаць: у нас, напрыклад, карціна цюцелька ў цюцельку такая ж, як і ў вас.

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Przeciw Wranglowi" (radz.), 21—22. „Tagebuch" (polski), 23—24. „Kłopotliwy gość" (polski), 25—26.

**Нараўка**

„Kto wierzy w bociany" (polski), „Niewolnicy" (USA), 22—26.

**Нарва**

„Dziki i swobodny" (angl.), „Okna czasu" (węgierski), 22—26.

**Чыжы**

„Pan Wołodyjowski" (polski), 22—26.

**Дубічы Царкоўныя**

„Daleko od słońca" (jugosł.), 100 karabinów" (USA), 22—26.

**Арэшкава**

„Pogromca zwierząt" (rumuński), „Pan Dodek" (rumuński), 25—26.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Abel twój brat" (polski), „Che (Opowieść o Guevarze)" (włoski), 22—26.

**Орля**

„Lucia" (kubański), „Lenin — dokumenty i fakty" (radz.), 22—26.

**Райск**

„Fraulein doktor" (jugosł.), „Mój pies Wulkan" (radz.), 22—26.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Ostatnie dni" (polski), 21—22. „Cyrk bez granic" (rumuński), 23—24. „Pożądanie zwane Anadą" (czeski), 25—26.

**Шудзялава**

„Cierpienia młodego Bohaczka" (czeski), „Dziura w ziemi" (polski), 22—26.

**Янаў**

„Pierścień ks. Anny" (polski), 22—26.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Droga nad morzem" (bułg.), 21—22. „Bokser" (polski), 23—24. „Legenda" (polski), 25—26.

**Мельнік**

„Kłopotliwy gość" (polski), 21—22. „Dziennik młodego małżeństwa" (fiński), 23—24. „Rezydent wywiadu" (radz.), 25—26.

**Мілейчыцы**

„Kapryśne lato" (czeski), 21—22. „Zielone smugi" (radz.), 23—24. „Martwa fala" (polski), 25—26.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Kaszabe" (polski), „Film o miłości" (węgierski), 22—26.

**Новы Двор**

„Pułapka" (polski), „Strachy zamku Spessart" (NRF), 22—26.


**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wrzystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7227 E-3

# ЛАНЦУГ

— Усё-ўсім, але гэту брыду, то ты сабе на шыю не пачэпіш! — сіпела Тэкля Дзіндзічка на сваю дачку Нану і аргументавала свае словы ўзмахамі валка ў руцэ. — Каб мне людзі вочы праплявалі! Ці ж у цябе цэпкі або караляў няма? А то — ланцуг на шыю, не раўнуючы, бы карова на ўпоне...

— І не б'ецеся, мамо, і не сварыцеся. Цяпер так носяць. ...Гэта ж модна... — апраўдвалася Нана, бегаючы вакол стала, каб не трапіць пад матчын валок, што варожа мільгаў зусім над Наніным каркам. Толькі новенькі і бліскучы ланцуг падзвэнкваў ды пазвоньваў на яе грудзях.

— Я ўсё ж па бацьку пайду. Хай табе паскам мяккае месца скроіць модна. Вось што... — засопшыся ад пагоні за дачкою, пагразіла Тэкля і на падворак падалася.

У адчыненыя дзверы ўвайшла курка. Нана: «Кыш!», а курка — скок у вакно ды вазон з «паненкай» вываліла. Новая даніца на чатыры чарапы раскалолася.

«Ну, будзе мне за ланцуг, дый за вазон дабавіцца», — падумала Нана.

— Кыш, каб ты спруцянела!

Курка ў адчыненую камору, кудахтаючы, кінулася ды на жэрдку, дзе лонскую зіму каўбасы і кумпяк віселі. Жэрдка — высока, пад самым полапам.

— От жа ж погань! Кыш, гавару, — стала Нана венікам зганяць рабенькую.

А тая ўселася на жэрдцы, бы на насесце ў куратніку, і хоць бы што. Узабралася Нана на сундук, а потым на дзежку, што на сундуку стаяла, і — цап! Але курка з лямантам у дзверы паляцела.

— А каб ты...

І тут ланцуг на край жэрдкі нанізаўся, дзежка з-пад ног высунулася і — павесілася Нана, бы той кумпяк лонскую зіму. Сюды-туды крунулася — ніяк. Яна ў крык, а замест крыку толькі язык у пене вываліўся.

Шчасце, што Дзіндзічка з Дзіндзікам адразу звочылі. І то на сілу ледзь адратавалі.

Тыдні праз два потым Дзіндзічка дакарала дочку:

— Вось табе і модны ланцуг! На ўсю ваколіцу асславілася. Вёска вунь у адзін бубен б'е, што Дзіндзікава Нана на ланцуг вешалася. І хто цяпер замуж возьме такую?

*Авадзень*



Звычайная паляўнічая быль.

# НІЎКА



### ШВЕЦЫЯ

Дарожны абходчык падышоў да чалавека, што ляжаў на рэйках, і спытаў, чаму ён тут разлёгся.

— Мне надакучыла жыццё, — адказаў той. — І я хачу, каб стакгольмскі экспрэс спыніў мае мукі.

— Стакгольмскі экспрэс? У такім выпадку, вам трэба перайсці на суседнія рэйкі: па гэтых пойдзе гётэборгскі хуткі.

*Гумар з барадою*

### СВІСНУЎ

Пан чакае другога пана ў госці. Паклікаў парабка:

— Іван, бяжы на дарогу і, як толькі пакажуцца пан, свіснеш. Тады музыканты зайграюць туш.

Іван пабег і неўзабаве вярнуўся.

— А дзе ж пан?

— А вы ж казалі, каб я свіснуў, то я так і зрабіў.

— Як зрабіў?

— А я іх як свіснуў, то яны там пад варотамі так і ляжаць.

### Талавaломка



Перад вамі тры рады геаметрычных фігур. У трэцім радзе не хапае адной фігуры, замест яе пытальны знак. Якой фігуры няма, калі ўлічыць размяшчэнне фігур у двух верхніх радах?

*

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*

*Кактусы ў гаршках 2 і 8.*

### ПАЎДНЁВЫ В'ЕТНАМ

Выбары ў Паўднёвым В'етнаме. Кожны выбаршчык атрымлівае запячатаны канверт і пад аховай двух дужых паліцэйскіх апускае канверт у урну. Але знайшоўся адзін адчайны выбаршчык, які паспрабаваў распячатаць канверт.

— Што ты робіш? — крыкнуў на яго паліцэйскі.

— Як што! Павінен жа я ведаць, за каго галасую!

— О няшчасны! Няўжо ты не ведаеш, што пры сапраўднай дэмакратыі выбары тайныя!

### ДАПАМОГ

— Вось бяда, — кажа муж да жонкі, — папяросы скончыліся.

Пачуў гэту размову сын — шасцікласнік.

— Я вам зараз, тату, прынясу.

— Ты што, у краму пабяжыш?

— Ды не, у клуню.

### ДАЎНО

Дантыст пытае:

— Скажыце, ці даўно ў вас баляць зубы?

— Яшчэ з таго часу, як будучы п'яным залажыўся і грыз пянёк.



— *Зраблю яшчэ тысячу кругоў, калі не прыйдзе, тады пайду...*

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

## Я НІКОМУ ЦЯБЕ НЕ АДДАМ

*Словы А. Русака*
*Музыка І. Лучанка*

Я нікому цябе не аддам, не аддам,
Можа гэтаму ты не паверыш і сам.
Не палюбіць ніхто цябе гэтак, як я,
Аб табе аб адным толькі песня мая.

Для цябе аднаго паміж соцень вачэй
Загарацца здалёк мае вочы ярчэй!
Не глядзі на другіх патайком ад мяне,
Калі сэрца сваё ты аддаў толькі мне.

Будзе сонца свяціць светлай радасцю нам...
Я нікому цябе не аддам, не аддам,
Можа гэтаму ты не паверыш і сам,
Я нікому цябе не аддам, не аддам!




### АМЕРЫКА

Тэхаскі мільянер вярнуўся з турыстычнага падарожжа з сувенірам — жывым вярблюдам. Ён праехаў на ім па горадзе, зышоў ля найбліжэйшага бара, а калі, добра выпіўшы, выйшаў на вуліцу, вярблюда не было, яго ўкралі.

— Назавіце прыкметы, — сказаў паліцэйскі. — Колер?

— Не помню.

— Колькі гарбоў?

— Ні то адзін, ні то два...

— Пол вярблюда?

— Вось гэта ўжо я ведаю дакладна! — радасна ўсклікнуў мільянер. — Мужчынскі.

— Чаму вы так упэўнены?

— А таму, што, калі я ехаў на гэтым вярблюдзе, усе прахожыя крычалі: «Паглядзіце на гэтага ідыёта!»

### ФРАНЦЫЯ

Францужанка, седзячая за рулём, не ўправілася з машынай і праз акно ўехала ў пасудны магазін. Затармазіўшы ля прылаўка, яна звярнулася да прадаўшчыка:

— Будзьце ласкавы, мсье, гэта магазін «Элегант»?

— Вы памыліліся, мадам, — ветліва адказаў прадаўшчык. — Калі вы праедзеце прылавак, павернеце налева праз кабінет дырэктара, затым направа праз склад і далей па падвалу ўсё прама і прама, вы трапіце менавіта туды, куды вам трэба.

### АДКУЛЬ ВЕДАЕ

— Калі мы пажэнімся, мілы, у нас будзе трое дзяцей!

— Адкуль ты ведаеш?

— А яны цяпер жывуць у маёй мамачкі...

### У СУДЗЕ

Адвакат у судзе трымае абарончую прамову. Ён характарызуе свайго падапечнага як чалавека добрага і ўражлівага, мяккага і сумленнага. Падсудны паднімаецца і, спыняючы адваката, звяртаецца да суда:

— Я заплаціў гэтаму тыпу кучу грошай, каб ён мяне бараніў. А ён вось ужо паўгадзіны балбоча аб кімсьці іншым.



— *Зараз, зараз, пане, ужо нясу!*

## ЭПІГРАМЫ

### МАТЭРЫЯЛЬНАЯ ЗАЦІКАЎЛЕНАСЦЬ

Вось ён, браткі, сацыяльны урок —
Самы наглядны і просты, бадай:
Першае слова сказаў мой сынок —
Першае слова ягонае: «Дай!»

### КРЫТЫКУЙЦЕ!

Крытыкаваць цябе ты заклікаеш,
Ды штосьці ніхто і словам не ўдзяўбе...
Так, сам ад крытыкі ты не ўцякаеш,
Але... яна ўцякае ад цябе.

### АХВЯРЫ МАСТАЦТВА

Жыў мастак — і на сваіх палотнах
Вельмі жонку маляваў ахвотна.
Добра, што ён сем разоў жаніўся —
Дык хоць сем разоў тыпаж змяніўся.

*Радой Ралік*

# Курʼёзы

### ЖАРТЫ КАМП'ЮТЭРА

Сваю здольнасць памыляцца чалавек перадаў і камп'ютэру — электронна-вылічальнай машыне. Не так даўно гэта ў поўнай ступені адчулі на сабе два жыхары Брытанскіх астравоў. Хатняя гаспадыня з Бірмінгема Сесілія Моўл атрымала па пошце чэк, на якім замест чакаемай сумы ў 13 шылінгаў і 5 пенсаў банкаўскі камп'ютэр адстукаў 600 тысяч фунтаў стэрлінгаў, 13 шылінгаў і 5 пенсаў. А вось будаўнічаму рабочаму з Лондана О'Брайнену другі электронны бухгалтар указаў у разліковай кніжцы зарплату ў памеры 0 фунтаў 0 шылінгаў 0 пенсаў.

Дарэчы, у абодвух выпадках памылкі камп'ютэра былі хутка выпраўлены. Цяжэй давялося амерыканскаму фермеру са штата Індыяна Джону Лэскі, які быў прызван на ваенную службу. Званок у ваеннае ўпраўленне штата і запэўніванні, што ён, Джон Лэскі, нядаўна адзначыў сваё 76-годдзе, што ён ветэран першай сусветнай вайны, ні да чаго не прывялі. Чыноўнік на другім канцы провада безапеляцыйна заявіў: «Наш камп'ютэр не памыляецца!» Старому давялося з'ездзіць у ваеннае ўпраўленне, каб даказаць відавочнае.

Але, бадай, самы здзіўляючы сюрпрыз ЭВМ паднесла былому англійскаму міністру адукацыі Эдварду Шорту. Ён вырашыў прыняць удзел у псіхалагічным тэсце. Вынікі якога абагульняў усё той жа камп'ютэр. Машына зрабіла вывад, што міністр яе вялікасці каралевы Вялікабрытаніі вельмі ардынарны і малаадукаваны чалавек.

Смяэ з намі

*Скажы мне, хто твой сябар, і я скажу яму, хто ты.*